# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 25 (2219)

20 чэрвеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


## ВАЙНА: НАЙВЯЛІКШАЯ ТРАГЕДЫЯ І БЯЗМЕЖНЫ ГЕРАІЗМ

Той, хто нарадзіўся 22 чэрвеня 1941 года і выжыў, можна сказаць, вайны не памятае, той жа, хто з'явіўся на свет 9 мая 1945 года, — яе не ведае. Вайна стала гісторыяй нават для таго пакалення, на чые плечы лягла яна невымерным цяжарам і страшэннымі пакутамі.

Пяцьдзесят гадоў, палавіна стагоддзя, амаль што чалавечы век... Столькі часу мінула з таго суднага дня, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Цяпер пра яе свабодна разважаюць былыя франтавікі і партызаны, нічога не хаваючы перад сваімі ўнукамі. Публіцысты і вучоныя мужы спрачаюцца ў дыскусіях наконт таго, магла яна быць ці не і хто больш у ёй вінаваты — Сталін або Гітлер ці абодва ў роўнай меры. І не таму такая свабода ў спрэчках і дыскусіях, гіпатэтычная вольнасць у ацэнцы падзей мінулай вайны, што попел яе даўно астыў і вецер часу разнёс яго на ўсе бакі, а на папялішчах буяе новая рунь, што, адужаўшы смерць, цячэ рака жыцця. Напэўна таму, што перш за ўсё людзі — і простыя, і ў навуковых сурдутах — не баяцца глядзець праўдзе ў вочы, гаварыць праўду.

Часам гэтая праўда занадта асабістая, што не супадае з аб'ектыўнай ісцінай, і тады, як і ў гады сталіншчыны ці застою, мінулая вайна бачыцца некаторым зноў у двухколерным вымярэнні — чорна-белым, толькі наадварот. Тое, што раней было белым, азмрочваецца, тое ж, што мела чорны колер, святлее да сюррэалістычных барваў святасці.

Але ёсць у той, ужо далёкай вайны два бакі аднаго медаля, якія ніколі не сатруцца і ніколі не паблякнуць: пакуты народа, яго боль, яго трагедыя і гераізм народа, яго перакананасць у барацьбе з ворагам. Бо народ змагаўся за сваю зямлю і волю, за сваю дарагую Радзіму.







НА ЗДЫМКАХ: фашысты ламаюцца ў дамы мірных жыхароў Беларусі; вёска ідзе ў лес да партызанаў; у атаку!

СУСТРЭЧЫ НА МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ БЕЛАРУСІСТАЎ

# Вітаўт КІПЕЛЬ: «Я ТУТ ПАМАЛАДЗЕЎ НА ЦЭЛАЕ ЖЫЦЦЁ»

**Ад самых розных людзей даводзілася чуць пра гэтага чалавека. Пра яго апантанасць у справах, якія датычацца Беларусі, пра яго шырокія навуковыя інтарэсы. І вось, нарэшце, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт КІПЕЛЬ у Мінску.**

**Моцны, энергічны. Такім я яго і ўяўляла. Але трошкі і разгублены, расслаблены, як быццам ап'янёны ўсёй гэтай атмасферай кангрэса, паветрам Бацькаўшчыны, нахлынуўшымі ўспамінамі.**

*— Спадар Вітаўт, што вы адчуваеце, апынуўшыся ў Мінску?*

— Паглядзіце, даражэнькая, у вакно майго пакоя. Бачыце? Траецкае прадмесце, сабор, а ў глыбіні, глядзіце ўважліва, на пагорку — будынак. То быў шпіталь, дзе я нарадзіўся 64 гады назад. А насупраць шпіталя, памятаецца, быў дом — дарэчы, захаваўся — там я вучыўся. Мы ўжо хадзілі з жонкай па тых мясцінах, дзе я ў дзяцінстве бегаў штодня. Здзівіўся, што няма мячэці, недзе каля моста яна знаходзілася. Кажуць, што разбурылі яе, а шкада. Чытаў я ў газетах пра тое, як расправіліся з Нямігай, са Старым горадам. Нашто ж было такое глупства рабіць? Я кансерватыўна стаўлюся да ўсіх гэтых разбурэнняў, гвалту над сведкамі часоў мінулых, памяці людской. Нашто разбураць? Аднак суцешу: не толькі ў Беларусі любяць гэта рабіць, у многіх краінах і ў нас у Амэрыцы таксама.

Тым не менш уражанне вельмі добрае ад горада. Усё тут мне міла. Гэта ж мой горад, горад майго дзяцінства, горад бацькоў і дзядоў. 58 гадоў не быў я на Бацькаўшчыне. Гэта цэлая вечнасць. Ходзім па вуліцах, і я адчуваю сябе памаладзеўшым на многа-многа-многа гадоў. Часта гутарым з людзьмі. Пачуўшы беларускую мову, многія неяк імкнуцца і адказаць на ёй альбо вінавата просяць прабачэння, тлумачачы, што не мелі магчымасці ёю авалодаць. І я думаю, што ў свядомасці людзей адбыўся пэўны зрух, зрух у пазітыўным кірунку. Пры царах, прынамсі, таксама не размаўлялі ў Менску па-беларуску. Уся ж адміністрацыя была расейская. Затое ў 20-я гады, як распачалася беларусізацыя, мова стала хутка вяртацца, прыжывацца. Памятаю, што вуліца, дзе я жыў у 30-х гадох, была ўся беларуская, дзеці гулялі ў хованкі, ведалі лічылкі. Безумоўна, пры спрыяльных умовах з цягам

**(Заканчэнне на 6, 7-й стар.).**

## ДА 50-годдзя З ДНЯ ПАЧАТКУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

**2 чэрвеня спаўняецца пяцьдзесят гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Гэта ўжо не першы трагічны юбілей у біяграфіі Савецкай краіны, якому "Голас Радзімы" адводзіць кожны раз значнае месца. На старонках нашай газеты выступалі ўдзельнікі баёў, военачальнікі, вучоныя, гісторыкі. Сёлета мы крыху адыдзем ад такой традыцыі. У невялікіх абразках свае думкі аб вайне, яе ўроках і сапраўдных героях выказваюць і франтавікі, і людзі маладога пакалення.**

# ПЕРАМОЖЦЫ

...Я стаяў ля магазіна ў вёсцы Асташына, што на Навагрудчыне, і гутарыў з Васілём Дударэвічам. Ён чакаў калгасны аўтобус, на якім былыя франтавікі збіраліся паехаць да помніка загінуўшым землякам і ўскласці кветкі. Помнік стаіць ля клуба, ад вёскі кіламетра паўтара.

Вось і аўтобус. Спыніўся ля нас. На зямлю саскочыў Аляксандр Сільвановіч, павітаўся і — да Дударэвіча:

— Залазь, Васіль, паедзем. Чакаць няма больш каго.

У салоне аўтобуса я налічыў шасцярых франтавікоў. Падумалася, што астатнія дабраліся раней самі. Але я памыліўся. Калі пад'ехалі да помніка, то больш асташынцаў не ўбачыў. Было яшчэ чалавек з дзесяць з іншых навакольных вёсак — Загор'я, Нянькава, Навасёлак...

Франтавікі ўсклалі кветкі, памянулі загінуўшых і хутка разышліся.

Быццам бы ўсё, як штогод, але вельмі ж нязвыклым падаўся мне гэты рытуал. Успомніліся юнацкія гады, калі ў Дзень Перамогі збіраліся ля помнікаў сотні франтавікоў. Ушанаванне памяці загінуўшых праходзіла, можна сказаць, нават пампезна: прыводзілі цэлыя школы, нарыхтоўвалі вялікую колькасць гірляндаў, запрашаліся аркестры, высокае начальства гаварыла прамовы. На такія цырымоніі траціліся немалыя грошы.

Адыходзячы ад помніка, падумаў: напэўна гэта слушна, што абышлося без таго шыку. Галоўнае, каб памяць аб загінуўшых у нас заставалася, каб хоць на святы памянулі нашчадкі сваіх землякоў нязлым, ціхім словам...

У той дзень я сустрэўся яшчэ з адным франтавіком, Паўлам Шоцкім. Цяжкая хвароба не дазволіла яму паехаць да помніка. Дзядзька Павел уважліва слухаў мяне, распытваў, хто паехаў ускладваць кветкі. І толькі раз перапыніў:

— Ніколі не згаджуся, што Іван (не буду называць яго прозвішча. — Я. Т.) — франтавік. Ён жа з сорак чацвёртага, калі прызвалі ў армію, да канца вайны ў Волагдзе ў запасе праседзеў, ніводнага дня на фронце не быў...

Скончылася вайна, а ён ільготы стаў для сябе прабіваць і прабіў! А тут, у Асташыне, у час акупацыі Цімох Дударэвіч партызанам дапамагаў, у разведку хадзіў, жыццём рызыкаваў. Дык ён праўды нідзе не дамогся, нават і паловы льгот не прадаставілі...

Так, дзядзька Павел, не магу з вамі не пагадзіцца. І Цімох, і Марыя Малахоўская, цяжарная, з малым дзіцем на руках, хадзіла ў Нягневічы ў разведку. Жанчына цудам жывая засталася: нехта выдаў. Дапамагла партызанам атрада Малухі ад разгрому ўратавацца. Ці Фаіна Гнілякевіч, што пякла хлеб партызанам, а каб перадаць яго ім, ашуквала паліцая Бакуновіча, які цікаваў за ёю. Гэтыя і многія іншыя патрыёты не мелі льгот да самага скону. Не мелі і ў большасці не дамагаліся іх. Ці не заслужылі і яны, каб у Дзень Перамогі палымнелі кветкі на іх магілах?!

Засмучае дзядзьку Паўла і такі факт. Доўгі час у вёсцы хаваўся ад немцаў афіцэр Савецкай Арміі родам з Расіі. Хаваўся і ад партызан — каб не забралі ў лес. Ад немцаў не ўратаваўся: застрэлілі.

І вось пасля Перамогі мясцовае начальства аб'явіла загінуўшага ледзь не героем. Нават на магіле таго афіцэра ў піянеры вучняў прымалі.

Так, пра мёртвых кепска не кажуць. Але ж не залічваць, на самай справе, такіх людзей у героі!

Расказвалі мне выпадак: далёкі сваяк Шоцкага ваяваў у Афганістане. Неяк франтавік прыйшоў у ваенкамат і выказаў нязгоду з адпраўкай савецкіх салдат у Афганістан.

— Самі ж, дзядзька Павел, ад фашыстаў Усходнюю Еўропу вызвалялі? — нагадаў я франтавіку той візіт у ваенкамат.

— Тут такая справа, — адказаў мой субяседнік. — Калі б мы не вызвалілі ад фашыстаў Еўропу, то фашызм адрадзіўся б. А гэта новыя войны, новыя пакуты для народаў. Таму і да Берліна дайшлі.

Афганістан нам славы не дабавіў. Як жыць, народ павінен выбраць сам. Ні за што больш пятнаццаці тысяч маладых хлопцаў нашых там загінула. Не трэба цяпер нікуды нам умешвацца. Няхай кожны народ сам разбіраецца дома. Прынцып такі: свой са сваім біся, лайся, а чужы не мяшайся.

Парада слушная. Так думае не адзін Шоцкі, а большая частка франтавікоў другой сусветнай.

# ВАЧЫМА НАШЧАДКАЎ

Адна з міжнародных выставак у Мінску супала сёлета з падрыхтоўкай да святкавання Дня Перамогі. Натуральна, гутарка журналістаў з бізнесменамі, прадстаўнікамі фірм вялася не толькі аб экспанатах, але і аб мінулай вайне. Як яна бачыцца цяпер, пасля пяцідзесяцігоддзя з дня яе пачатку, удзельнікам і гасцям той выстаўкі?

**Стасіс АНДРУЙЦІС, журналіст з Літвы:**

— Мае адносіны да мінулай вайны адназначныя: я пракляў яе. У нашай сям'і было сем братоў. Цяпер у жывых застаўся я адзін. Толькі не падумайце, што ўсіх пазабівалі фашысты. Браты аказаліся па розныя бакі барыкад. І я вінавачу ў гэтым не толькі фашыстаў, вінаваты савецкія ўлады тых гадоў. Яшчэ да пачатку вайны яны арганізавалі жорсткія рэпрэсіі. Калі гінулі бязвінныя людзі, братам цяжка было зарыентавацца ў такіх абставінах. Адзін з іх прымкнуў потым да фашыстаў, другі — да партызан, а трэці — да нацыяналістаў. Вельмі шкада, што нашы гісторыкі не даюць належнага аналізу, чаму так атрымалася...

**Збышак БЯГАЦКІ, польскі бізнесмен:**

— Гэта не сакрэт, што ў мінулай вайне страшна пацярпела Польшча. Па задуме гітлераўцаў, наш народ павінен быў быць фізічна знішчаны, у лепшым выпадку, стаць рабом. Гэта жудасна. І мы ўдзячныя Савецкаму Саюзу за тое, што фашызм быў разгромлены.

Дзякуючы перамозе над ім, сёння я не раб, а гаспадар. Справы ў мяне ідуць добра. Усімі сродкамі буду падтрымліваць мір на зямлі. Калі ўжо сапернічаць, дык толькі ў бізнесе.

**Франц КЕЛЬНЕР, прадпрымальнік з ФРГ.**

— У мяне на радзіме ў асноўным асуджаюць фашызм. Але не ўсе асуджаюць вайну. Так, не здзіўляйцеся. Вайна, на думку некаторых немцаў, дала тэхнічны скачок, прагрэс. Я ж лічу: гэта не так. Што гэта за прагрэс, у імя якога загінулі дзесяткі мільёнаў людзей?! Прычым, людзей разумных, таленавітых. Каб не было вайны, то дзякуючы ім можна было б дамагчыся значна большага тэхнічнага прагрэсу.

Пасля інтэрв'ю з журналістамі Франц папрасіў мяне паказаць... нямецкія могілкі ў Мінску ці паблізу беларускай сталіцы. Просьба вельмі нечаканая, выканаць якую было больш чым складана. Ва ўсёй Беларусі такія месцы не абазначаны. Самі пахаванні знаходзяцца ў вельмі непрыстойным выглядзе.

Мінчане, напрыклад, добра ведаюць, што насупраць Маскоўскіх могілак пахаваны нямецкія салдаты. Зараз тут лес, і... зеўраюць свежавыкапаныя ямы, вакол якіх раскіданы чалавечыя чарапы, косці. Тут вядуць "раскопкі" страціўшыя сумленне людзі — шукаюць пярсцёнкі, вырываюць з чарапоў залатыя зубы. Як гэта назваць? Кашчунствам, не інакш. Ні ў адной краіне так не абыходзяцца з мёртвымі, нават калі яны і былі некалі заваёўнікамі.

# ІСКРЫНКА НАДЗЕІ

На гасцей мне заўжды шанцавала. Але прыняць у сябе каўказца давялося ўпершыню. Ісмаіл Кайгермазаў прыехаў у Мінск з далёкай Кабардзіна-Балкарыі шукаць работу. Месца ў гасцініцы не знайшлося, і ён папрасіўся на некалькі дзён да мяне.

У выхадны дзень я запрасіў госця ў музей Вялікай Айчыннай вайны. Для гэтага была свая прычына. Адпраўляючы сына ў дарогу, бацька Ісмаіла папрасіў: "Магчыма ўдасца што-небудзь даведацца пра сваяка, Спартака, які ваяваў у Беларусі, у партызанскім атрадзе Каржа. Падчас аперацыі "Баграціён" Спартак пайшоў у разведку і не вярнуўся. Колькі ні шукалі, куды ні пісалі — ніякіх звестак".

Нам не пашчасціла. Ні супрацоўнікі музея, ні шматлікія ветэраны не дапамаглі: чалавек на вайне як іголка ў стозе сена. Прапаў — не знойдзеш. На другі дзень я прапанаваў Ісмаілу наведаць могілкі на Маскоўскай шашы. Разлік быў такі. Тут пахавана шмат вядомых людзей. Асабліва ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Да магіл заўжды прыходзяць ветэраны, каб ушанаваць памяць баявых сяброў.

Падышлі да магілы Васіля Каржа і сапраўды ўбачылі старога ў чыстым, але ўжо паношаным касцюме. Мы пазнаёміліся. Фёдар, ці, як ён назваў сябе, Фядос Нагулевіч, ваяваў у Каржа. Кожны год ён прыязджае на магілу свайго камандзіра, каб ускласці кветкі.

— То можа прыходзілася сустракацца з маім дзядзькам, Спартаком? — спытаў Ісмаіл у Нагулевіча.

Нагулевіч памаўчаў, напэўна ўспамінаючы баявых таварышаў, пасля пакруціў галавой:

— Не сустракаў, а можа памяць ужо падводзіць... Было ў нашым атрадзе многа хлопцаў з Закаўказзя.

І тут жа дадаў:

— Але паспрабую дапамагчы. Яшчэ жыве камандзір узвода разведкі. Я з ім спішуся, ён павінен усіх сваіх байцоў помніць. Напэўна ведае, як загінуў твой дзядзька, можа падкажа, і дзе магілу шукаць. Пакінь толькі свой адрас.

...Ісмаіл Кайгермазаў ад'язджаў дадому павесялеўшым. У сэрцы гарэла іскрынка надзеі, што ўдасца нарэшце, праз дзесяткі гадоў, знайсці магілу сваяка.

# МАНАЛОГ ДЗЯДЗЬКІ ВАЛОДЗІ

— І калі ты ўжо мне сваю газету пакажаш? — часта папракаў мяне Уладзімір Лашкевіч, ляснік з вёскі Масцішча Лагойскага раёна. — Толькі абяцаеш.

Нарэшце я выканаў тую просьбу. Ды і добры выпадак надарыўся: у "Голасе Радзімы" з'явіўся матэрыял "Хто спаліў Хатынь?" Ад Масцішчаў да Хатыні — рукой падаць. Многа матэрыялаў напісана пра трагедыю вёскі. Але апошнім часам з'явіліся і спрэчныя. Таму і хацелася пачуць ад мясцовага жыхара, што ён ведае пра Хатынь.

Уладзімір Лашкевіч уважліва прачытаў артыкул, пахваліў аўтара: правільна напісаў, смела. Даўно час расставіць акцэнты ў гэтай гісторыі.

Пачаў расказваць пра вайну, сведкам якой быў.

— Карнікі спалілі на Лагойшчыне некалькі вёсак. Памятаю, прыбег селянін з Мыльніцы ў нашы Масцішчы. Кажа: "Хавайцеся, бо яны казалі і вашу вёску разам з людзьмі знішчаць". Я згаджаюся, што і сапраўды ад немцаў лепей на некалькі дзён у лесе схавацца. А той селянін мяне папраўляе: "Якія немцы?! Па-нашаму размаўляюць".

Пасля Мыльніцы дайшла чарга і да нашай вёскі. Добра, што з бацькам мы выкапалі яму пад хатай. Паляць карнікі нашы дамы, страляюць некага. І нам добра было чуваць, што тыя "немцы" па-ўкраінску размаўляюць.

Перасядзелі мы тое ліха, жывымі засталіся.

А пасля вайны прыехала камісія, нас распытвалі пра злачынствы карнікаў. Я неяк узяў ды і бухнуў, што вёскі палілі не немцы. Дык потым мяне ўчастковы доўга цягаў, пагражаў: "Калі яшчэ раз каму-небудзь будзеш пра ўкраінцаў згадваць, дык я цябе сам ведаеш, куды накірую".

Я то ведаў. Шыла ў мяшку не схаваеш. Не аднаго з Лагойшчыны ўжо забралі, адкуль і вяртання не было.

Часта мне ў галаву такая думка прыходзіць: раней нават у школьных падручніках пісалася, што немцам у вайну служылі асобныя людзі, адзінкі. Называлі іх здраднікамі. І сапраўды здраднікаў хапала. Але ж былі выпадкі, калі і паасобныя раёны краіны спачувалі немцам, нават арганізоўвалі для іх воінскія часці.

Мне здаецца, што прычын некалькі: тыя ж рэпрэсіі, гвалтоўнае перасяленне цэлых народаў з бацькоўскіх мясцін.

Такога ў той час нарабілі, што і сёння адгалоскі ідуць. Таму і ўзнікаюць цяпер канфлікты, падобныя на тыя, што ў Асеціі, Карабаху ці Прыбалтыцы.

Але няхай аб гэтым вучоныя ці гісторыкі нам сёння адкрыта скажуць... Фашысты фашыстамі. Супраць іх патрэбна было весці бязлітасную барацьбу. І я вельмі баюся, каб праз нейкі час нашым дзецям і ўнукам не прыйшлося сутыкнуцца з нейкай новай такой чумой.

*Старонка падрыхтавана Яўгенам ТУРАЙКЕВІЧАМ.*




17

Вы пэўны, што жыцьцё чалавека ідзе роўным, так сказаць, матэматычным шляхам, і, як бы чалавек ні хацеў, ён ня сойдзе з гэтага шляху, які ляжыць перад ім ужо з калыскі. Вы фаталіст. Вы верыце ў сілу, кіруючую чалавекам на яго шляху, мяшаючую яму сайсьці на іншы шлях, сілу, якую адны называюць лёсам, другія выпадкам, трэція, можа быць, Богам. Вы лічыце, што выпадковасьцей няма. Праўда! Ну вось, у той час, як большасьць людзей лічаць, што выпадкі існуюць. Гэта большасьць прыбягае да гэтых выпадкаў як да ратунку, калі ня можа растлумачыць зьявішча. Так, скажам, будавалі дом. Інжынер, стары ўжо, добры спэцыяліст, пабудаваўшы не адзін дом, прадугледзеўшы, здаецца, усё, што трэба, кажа ўзьвясьці трэці паверх. Раптам дом абваліваецца. Назначаецца камісія, справа разглядываецца, нічога ня можа знайсьці канкрэтнага. Магчыма, дрэнны матэр'ял быў віной, і дом ня вытрымаў цяжару. Усе дзівуюцца, усе паціскаюць плячамі — і ўсе кажуць, гледзячы на старога інжынера: "Выпадак. Проста выпадак". Пад домам ляжаць раненыя работнікі. Адны ранены, другія — забіты. Забітых прывозяць у хату да іх жонак і дзяцей — і жонкі, ірвучы на сваёй галаве валасы, крычаць: "Чаму забіла майго Янку, а чаму Пётра астаўся жывы?" Ім адказываюць: "Выпадак. Няшчасны выпадак." Слова "выпадак" разьясьняе ім, што так і павінна быць. І далей ніякіх разважаньняў, што хаваецца за гэтым магічным словам "выпадак", ня робіцца. Я знаў аднаго афіцэра расейскай арміі, які даўно казаў, што ў жыцьці яму не "вязе", але калі я пытаў яго: "Чаму?" — ён адказываў проста: "Выпадак". Напрыклад, ён вельмі дабіваўся "звёздачкі". Ведаеце — чала-

18

вечая псіхалёгія: "нашыўкі", "звёзды", "медалі", "чыны"... Вось усё, здаецца, было ўжо на добрай дарозе. Начальства ставілася да яго добра. Яму ўжо ўсьміхаліся сваім радасным бліскам "звёзды", "чыны". Як раптам — "няшчасны выпадак": быў парад, і ў аднаго жаўнера разьвязаліся на парадзе абмоткі на назе.

Замест "звёздаў" і "чыноў" афіцэр атрымаў строгі выгавар. Вось вам "выпадак"!.. Нядаўна ў Празе па аднэй з вуліц ішла дама з малымі дзяцямі. Праходзячы каля велізарных дамоў з разнымі аздобамі і статуямі, яна спынілася і пачала паказываць прыгожы дом сваім дзяцям... І вось раптам адламалася адна статуя і забіла даму на мейсцы. Засталіся толькі плачучыя дзеці. Народ зьбегся, пачаў крычаць: "Выпадак! Няшчасны выпадак!".

А між тым, каб усе гэтыя людзі, якія крычаць: "Выпадак, выпадак", падумалі і прааналізавалі жыцьцё чалавека ад яго нараджэньня, каб яны паспрабавалі ўсе гэтыя паасобныя выпадкі запісаць і сабраць у адно, яны б пабачылі, што гэтыя выпадкі і ёсць толькі паасобныя зьвеньні аднаго ланцуга, што яны толькі паасобныя рухі аднэй сілы, даючай напрамак шляху. Яны, вобразна кажучы, іскры тэй самай электрычнай сілы.

— Я пераканаўся, — прамовіў Тугоўскі, увесь час важна слухаўшы, — што выпадкаў няма. Усё заканамерна, нават матэматычна. Напрыклад, у мяне ня толькі шчасьлівыя дні, як у іншых, але шчасьлівыя тыдні мяжуюцца з нешчасьлівымі проста на дзіва точна, як чотныя і нячотныя лічбы ў арыфмэтыцы.

— Так, так, — падхапіў астральны чалавек. — Дужа добра! Вам не хапае літэратуры. Вы ня

19

ведаеце шляхоў тых, якія жылі да вас. Я вам пастараюся даць некалькі кніжак, якія дадуць вам апору.

Ён выцягнуў з-пад падушкі некалькі кніжак і даў іх зацікаўленаму, зьдзіўленаму Тугоўскаму.

— А цяпер слухайце, слухайце далей, што скажа вам астральны чалавек. Кожную ноч, калі шумныя месты і спакойныя вёскі зачыняюць вочы і бачаць дзіўныя, неразгаданыя сны, над сьветам праносяцца велізарныя сілы, настолькі велізарныя, што, напэўна, сьпячыя вёскі і месты навекі зачынілі б вочы ад страху, каб пабачылі іх запраўдныя памеры. Мільёны зор пачынаюць сьвяціць і мігаць дзіўнымі агнямі.

Выплывае месяц і пачынае аглядаць паню-зямлю. Яна, наша шэрая, непрыгожая зямля, напэўна здаецца яму найлепшай, прыгажэйшай у сьвеце, бо прыцягівае яго да сябе, бо прымушае месяц круціцца каля сябе. І так будзе да самай іх сьмерці... А паміж гэтымі зорамі і гэтым месяцам блішчаць спакойныя мігаючыя вочы, чырвоныя і жоўтыя вочы, якіх мы не заўсёды бачым — дзіўныя, неразгаданыя, невядомыя вочы плянэт. Плянэты, як жывыя істоты, зьвязаны паміж сабой працягнутымі рукамі: яны цягнуць да сябе адна другую, як родныя сёстры — гэта закон усясьветнага прыцягненьня. Дзіўны ўплыў плянэт на нашу зямлю настолькі вялікі, што ўсе вялікія астраномы, як Кэплер, Ціхотэ-дэ-Браге[1] і іншыя, больш вялікія, чым сучасныя прафесары унівэрсытэтаў, зьвязывалі людское жыцьцё з рухам плянэт. Яны ўмелі скласьць "гараскоп" — каляндар чалавечага жыцьця па зорах. Пазьнейшыя вучоныя заклямавалі гэтыя пагляды вялікіх астраномаў. Іх метады назвалі "гаданьнем", а іх

20

навуку — "астралёгіяй".

Адкіньце на бок усе кніжкі, усе тэорыі нашых пэдагогаў і паклікайце на дапамогу лёгіку. Падумайце: вучоныя-гэографы знайшлі, што ад уплываў месяца залежаць марскія прылівы і адлівы, якія правідлова чарадуюцца праз шэсьць гадзін. Знача, месяц мае вялікі ўплыў на мора. А калі гэта так, калі нават мора можа раскачаць свае магутныя хвалі і з шумам, з пенай кінуць іх на камяністы бераг толькі пад уплывам месяца, дык мне здавалася бы: лёгіка павінна была б прызнаць, што слабы чалавек павінен быў падпадаць яшчэ болей уплыву. Чаму бы, напрыклад, пад уплывамі месяца ня мог бы чалавек, так сказаць, "забурліць", падняць свае настроі — кінуцца ў жыцьцё з радасьцей, чаму, напрыклад, праз пэўны час гэтыя настроі не маглі б і апасьць у яго, як хвалі мора. Але калі маленькі месяц можа аказаць такі ўплыў на Зямлю, на мора, дык што можна сказаць тады пра вялікія плянэты, у некалькі разоў большыя за Зямлю? Лёгіка, здаецца, павінна была б сказаць, што гэтыя ўплывы павінны быць яшчэ большымі. Зразумела, што ўплыў плянэт на людзей павінен быць значна большым. — Астральны чалавек адкінуў коўдры, устаў з пасьцелі. — Так, уплыў плянэт на жыцьцё чалавека ёсць падобны ўплыву месяца на марскія хвалі, — сказаў ён. — І ўсё жыцьцё чалавека залежыць ад таго, пад якой плянэтай ён радзіўся. Радзіўся ён пад Сонцам — знача, што жыцьцё яго будзе сьветлым, радасным, шчасьлівым; радзіўся ён пад Сатурнам — жыцьцё яго пойдзе па крывой арбіце, будзе нясталым, поўным непрыемнасьці і напоўніць чалавека пэсымізмам і мэланхоліяй. Што гэта ўсё так, — можаце ўзяць дату нараджаньня

21

знаёмага вам чалавека, месяц, год і адшукаць вось у гэтай кнізе. — Ён паказаў ценюнькую кніжачку, на абложцы якой была намалёвана плянэта Сатурн з абручом. — Пад якой плянэтай радзіўся знаёмы вам чалавек ці вы самі, вы знайдзеце правідловы малюнак вашага жыцьця... Тады ня трэба вам будзе казаць аб "выпадку", аб "няшчасным выпадку". Тады жыцьцё ваша атрымае дзіўны сэнс, закон, па якому вы зможаце адзначаць нават сваю будучую дарогу ў жыцьці...

Ён замаўчаў... Тугоўскі ўжо ня слухаў яго і шукаў нешта ў кніжцы...

— Ну што, знайшлі? — спытаў астральны чалавек. — Давайце я памагу вам... Паглядзём, пад якой плянэтай вы радзіліся...

Тугоўскі зь цікавасьцю пачаў пералістываць старонкі кніжкі. Ён хаця яшчэ не зусім пераканаўся "лёгікай" астральнага чалавека, але ўсё ж зацікавіўся ёй.

— Можа быць, я радзіўся пад Сонцам? — думаў ён. — Усё ж тады больш прыемнасьці...

— Сатурн, — сказаў астральны чалавек і паглядзеў на яго пільна, з нейкай трывогай.

— Так! Вы радзіліся пад Сатурнам. Гэта не зусім прыемна.

Тугоўскі пабляднеў і ня мог прамовіць ні слова.

### III

Беларуская грамада ў Празе стала папаўняцца "чароўным полам". Жанчыны, як кветкі вясной, пакрылі беларускае поле ў чэскай Празе, і поле запрыгажэла — зацьвіло, ажывілася, напоўнілася араматам. Мужчыны ўраз жа зьмяніліся, сталі

22

менш спрачацца і лаяцца на сходах, а калі і трэба было паспрачацца, дык усё вялося толькі ў рамках парламантарызму: стараліся паказаць сябе дэлікатна і спакойна. Зразумела, што кветкі не былі роўнакаштоўнымі, ня вабілі аднолькава сваімі фарбамі, формамі і пахам. Адны з іх былі сапраўднымі кветкамі беларускіх палёў. Перанесеныя на чужы грунт, не маглі зацьвісьці яшчэ больш пышнымі бутонамі; яны мала-памалу сохлі, гіблі, гублялі красу і выклікалі толькі насьмешкі з боку сваіх жа сяброў. Другія, наадварот, — пускалі карэньні ў чужы грунт, выжывалі, правіліся, расквіталі дзіўнымі кветкамі і ўжо нічым не адрозьніваліся ад прыгожых і пахучых кветак Чэхіі.

Праўда, такіх было мала, але ўсё ж было, і сярод іх самым пышным бутонам выглядзела Галіна Уладзіміраўна Вярхоўская. Усяго некалькі дзён таму назад, калі яна прыехала, па Студэнцкаму дому ішоў шопат. На прыгожым і шырокім бальконе, дзе стаялі столікі для шахматаў, па кафельнай падлозе прахажывалася разнаязычная маса чэхаў, мад'яраў, немцаў, армян, грузін, украінцаў, палякаў, расейцаў, невялікая грамада беларусаў зьбілася ў кучку і шапталася.

— Бачылі? Бачылі? — казаў Загорскі. — Да нас прыехала каралева. — Ён блішчэў у лакірках і ў новым чорным касьцюме.

— Няпраўда, — зазначыў Бурачэўскі Кірыла, неміласэрна плюючы на падлогу і пасовываючы

**Працяг.**
**Пачатак у № 23, 24.**

23

капялюш на патыліцу. На ім быў зялёны касьцюм, выдадзены камітэтам разам з стыпэндыяй, вісеўшы на ім, як на калу. — Я вам зазначыў, — прадоўжываў ён, — што прыгожыя жанчыны выходзяць замуж, а ня лезуць у універсытэт. Запраўды, паглядзіце на нашых студэнтак. Яны — усе ўроды! — Ён засьмяяўся. — На іх мужчыне глядзець брыдка. Таму, зразумела, няшчасныя ў каханьні, яны шукаюць шчасьця ў навуцы, у працы...

Студэнты засьмяяліся:

— Ай да "айцец" Кірыла.

— Паглядзіце, грамадзяне, — сказаў Загорскі, — "айцец" Кірыла палысеў у Празе. І цяпер выглядае з сваім доўгім носам — што міністра замежных спраў.

З Кірылам Бурачэўскім студэнты яшчэ больш павесялелі. Пасыпаліся вастроты, колкасьці, спрэчкі, сьмех.

Падыйшоў яшчэ лысы і паважаны студэнт філязофіі Янка Станкевіч[2]. Студэнты паднялі яго на сьмех:

— Разыйдзіцеся, грамадзяне! Аўтар беларускага лемантара крывіньдзіляе, — крыкнуў насьмешлівы, маленькага росту, з выцягнутым і вострым тварам Малевіч.

— Што гэта за слова "крывіньдзіляе"? — запытаўся Станкевіч.

— "Крывіньдзіляе", — так у нас на Віцебшчыне кажуць пра тых, у каго крывыя ногі...

— А хіба ў мяне крывыя ногі? — усьміхнуўся крыва Станкевіч.

Студэнты заместа адказу рассьмяяліся.

— Слухай, дзядзька Янка, — перабіў сьмех Загорскі, — ты калісьці казаў, што абыйшоў усю

24

Беларусь пехатой з торбай за плячамі... Скажы, калі ласка, ці сустракаў ты ўва ўсей Беларусі хоць пару стройных жаночых ножак?..

— У цябе толькі і стаяць у галаве жаночыя ногі, бясстыднік, — сярдзіта агрызнуўся Янка.

— Ой, які ты старык ужо, дзядзька Янка, — адказаў Загорскі. — Што скажа пра цябе твая жонка, калі даведаецца, што ты не зьвяртаеш увагі на жаночыя ногі. Гэта ня робіць табе чэсьці, як філёзафу, дзядзька. Успомні, немец Гэйне знайшоў, што ў немак ногі, як палены, маскаль Пушкін пісаў, што ўва ўсей Расеі ня знойдзеш пару стройных ног. Ну, а скажы, як на Беларусі? Напэўна, у беларусак ногі, што дзьве калоды?

— Няма мне часу з вамі цадзіць ваду рэшатам, — сказаў Станкевіч і пайшоў у залю Студэнцкага дому, адкуль даносіліся шум і гукі раялю.

— Слаба, слаба, філёзаф, — панясьліся яму ў дагонку крыкі і сьмех.

— Таўкачы! — засьмяяўся "айцец" Кірыла, плюючы зноў. — Запраўды, беларусы ўсе запраўдныя таўкачы!

У гэты момант на бальконе паказалася Вярхоўская. Усе замоўклі і ўпіліся ў яе вачыма.

---

[1] Ціхо Браге (1546 — 1601) — дацкі астраном, які даказаў, што каметы — нябесныя целы, склаў зорны каталог. На аснове яго назіранняў Марса нямецкі астраном Кеплер (1571 — 1630) адкрыў законы руху планет.

[2] Я. Станкевіч стварыў у Празе першую студэнцкую арганізацыю Таварыства беларускіх студэнтаў, якая мела свой друкаваны орган "Беларускі студэнт". Пазней, атрымаўшы званне доктара навук, працаваў у Віленскім універсітэце. Памёр у ЗША. Аўтар "Беларуска-расійскага /Вялікалітоўска-расійскага/слоўніка".

# Cultura y dialéctica

Las culturas de los eslavos orientales, a las que pertenecen la rusa y la bielorrusa, son de la misma procedencia y existen bajo la influencia de dos tendencias: la aproximación y similación de las culturas, y, simultáneamente, la defensa de su respectiva identidad y originalidad. Hay que tomar en consideración esta circunstancia y no repetir el error de los años 50, cuando se proclamó que sólo la aproximación de las culturas tenía la razón de ser.

El desenvolvimiento de la cultura es un proceso complicado y contradictorio, en el que se intervinculan activamente lo real y lo ideal, lo material y lo espiritual, lo objetivo y lo subjetivo, lo particular y lo general. En el período de la formación de la cultura predomina por lo general el principio espiritual; en la época de su máximo florecimiento, lo espiritual y lo material se funden formando una aleación armónica; y en el período de la degradación y decadencia de la cultura la espiritualidad decrece notablemente y empieza a primar lo material.

Es de recordar que esto se observaba ya en la Antigüedad, y más tarde en la Europa medieval. Algo parecido, pero con sus peculiaridades, acontecía en las regiones de eslavos orientales. Ya en la Rus de Kíev estaban presentes las tendencias unitarias producto de la desintegración de la visión del mundo pagana. Para sustituirla llegó la ideología cristiana que para aquella época era mucho más avanzada. Sin embargo, esta ideología, nacida en Europa Occidental a base de una civilización milenaria muy desarrollada —que correspondía al nivel relativamente alto de la cultura material— tropezó aquí con una base material débil. La idea cristiana resultó aquí demasiado utópica, así que para realizar su *pathos* unificador y superar las luchas intestinas de los príncipes kievitas, San Vladimiro tuvo que recurrir a las armas. En las crónicas históricas la Rus de Kíev era denominada "potencia floreciente" solamente para complacer a los príncipes. En lo que se refiere a la historia real, es necesario decir que su marcha llevó muy pronto al surgimiento de tendencias separatistas y por último a la desmembración feudal. Durante largo tiempo la historiografía oficial caracterizó este período como decadencia. En realidad hay que admitir lo contrario: las comunidades sociales locales y sus culturas florecían, pues de una u otra forma, la utópica idea del cristianismo se ponía en concordancia con la vida real de los pueblos. Esta armonía entre lo ideal y lo real se reflejaba hasta en la vida social y política, pues se evidenciaba, por ejemplo, en la historia del principado de Pólotsk, que constituye la base tanto de la nación bielorrusa como de su cultura.

De tal manera, la aparación de la nación bielorrusa y su cultura está ligada no tanto con la incorporación de su territorio al Gran Principado de Lituania (este factor solo coadyuvó al desarrollo de los característicos rasgos bielorrusos) como con la interna y lógica necesidad social-histórica.

La ulterior marcha de los acontecimientos llevó a la unificación de las tierras bielorrusas dentro del Imperio Ruso que para aquel entonces, según Vladímir I. Lenin, se había convertido en la cárcel de los pueblos. En 1917 reventó no sólo por la fuerza de sus contradicciones sociales internas sino también por la lucha de los pueblos que buscaban su liberación nacional.

Después del año 1917 la historia empieza a ascender por una nueva vuelta de su espiral. Bajo la influencia de la ideología socialista, tomada de nuevo del Occidente altamente desarrollado, surgen unos sueños subjetivamente sinceros pero objetivamente utópicos para la creación de una sola comunidad internacional unida en una potencia de dictadura del proletariado. Esta idea no correspondía en absoluto a la realidad histórica y económica, de suerte que la dictadura estaliniana la imponía por medio de la violencia estatal. Nada tiene de sorprendente que más tarde las ideas de la convergencia se mutaran en aspiraciones diametralmente opuestas que se habían venido acumulando por largo tiempo, para ponerse de manifiesto en el período de la *perestroika*. Al igual que lo ocurrido en los siglos XIII, XIV y XV, a tal proceso se le toma como una especie de decadencia, pero en realidad es un paso hacia adelante pues su propósito es armonizar lo real y lo ideal, lo objetivo y lo subjetivo. En el plano socio-cultural se revela en forma de la resurrección de las culturas nacionales y en el político, en la aspiración hacia la soberanía estatal y la independencia económica. Es decir, se tiende a la armonía entre lo nacional y lo humano universal, armonía que es la única manera de asegurar la salud social y el desarrollo multifacético de las culturas rusa, bielorrusa y otras, originales e iguales en derechos.

**N. KRIUKOVSKI,**
**Doctor en Filosofía y profesor de la Universidad Estatal de Bielorrusia en la Cátedra de Estética, Etica e Historia de la Religión.**

## MONUMENTOS HISTORICOS



*En el centro de la ciudad de Grodno de nuevo se oye el tañido de un reloj de campana del siglo XVII que mucho tiempo estuvo "sin vida". Ahora, luego de haberse sido restaurado, volvió a marchar. Este reloj que está colocado en una de las torres de la Iglesia Católica (Farny Kastsiol) es el más antiguo entre los relojes de áncora que actualmente funcionan en Europa.*
EN LA FOTO: Iglesia Católica de Grodno.
Foto: Yuri PAVLOV

# MARC CHAGALL POETA

NO TODOS están enterados de que Marc Chagall se dedicaba a la poesía. Por primera vez sus versos salieron a la luz en 1968 en Francia, donde ha vivido desde 1923. La tirada del libro fue sólo de 238 ejemplares. En 1975 fue completada con nuevas obras, y reeditada. Ahora el libro de Marc Chagall fue publicado en su patria, Bielorrusia, y contiene 26 poemas en ruso y bielorruso, 7 ilustraciones a color de los lienzos del pintor ("La maison bleu", "Ma fiancée aux gants noirs", "Petrait de Vava", "Nue au-dessus de Vitebsk" y otros), y también la carta-lamento "A mi ciudad de Vítebsk", que fue publicada el 15 de febrero de 1944 en un periódico neoyorquino.

Es un librito minúsculo (9,2 por 7 cm.), su cubierta de color rojo reproduce el famoso cuadro de Marc Chagall "Juno y el pavo real". En el librito aparece el retrato del maestro y la foto de sus manos. El epígrafe, como siempre, en la primera página, dice "Mis cuadros son mis versos", que quiere de esta forma peculiar hacernos comprender la vinculación inquebrantable entre la obra de un poeta y la maestría profesional de un pintor. El que escribe estas líneas es traductor de los versos de Marc Chagall al bielorruso.

El Marc Chagall pintor indudablemente eclipsa al Marc Chagall poeta. Es natural, la tradición de su fama mundial es más fuerte. Pero todos los que lo admiran como pintor tienen que conocer también su poesía y penetrar en la comprensión de su alma confiada y sensible.

Vasil Bikov habló de Marc Chagall con mucha exactitud y mucho peso: "El hombre recoge en la vida lo que fue sembrado en su infancia en su patria. No importa dónde esté ubicada su patria, ni si es una ciudad conocida o una aldea olvidada por Dios y por todos. El corazón sensible siente cariño por ella".

¿Qué podría significar para un pintor tan renombrado como Marc Chagall la pequeña ciudad provinciana de Vítebsk? Pero precisamente aquella ciudad se hizo una fuente inagotable de su obra.

Las poesías de Marc Chagall testimonian la profundidad de los sentimientos humanos del autor y la sabiduría de su concepción del mundo.

El lector ruso conocerá la poesía de Marc Chagall en las traducciones de Lev Berinski que me ayudó mucho en el proceso del trabajo con la obra.

**Rygor BORODULIN**

## JUNTO CON TODA LA HUMANIDAD

**El 25 de mayo en Moscú concluyó sus labores el I Congreso Internacional "Andréi Sájarov In Memoriam", que transcurrió bajo el lema "Paz, Progreso, Derechos Humanos".**

Algunas intervenciones en el Congreso, tajantes en extremo, hirieron incluso nuestros oídos acostumbrados a todo. Especialmente las intervenciones dedicadas a la búsqueda de nuestra salida del totalitarismo: ¡Basta de pedir limosna! ¡Basta de divagar sobre la ayuda del extranjero que necesariamente nos mantendrá debido a todos nuestros sufrimientos!

Algunos oradores se refirieron a la aparición de una nueva ilusión: pues ahora queremos incorporarnos al capitalismo, denostado ayer por nosotros, que nos garantizará el reino de la abundancia. Es una ilusión peligrosa, algo así como la idea comunista al revés.

Elena Bonner protestó con especial perseverancia contra la idea de que "hemos quedado huérfanos sin Sájarov". Las referencias a la "orfandad" se percibieron en aquellas intervenciones cuyos autores llamaron a seguir por la vía no occidental y tampoco la oriental. No pertenecemos a ningún bando, y por esto debemos elegir una vía especial de desarrollo. Naturalmente, es necesario tomar en consideración las particularidades étnicas, pero el camino al futuro es uno solo: desarrollarse por etapas junto con toda la humanidad.

### ¡QUERIDOS AMIGOS!

**Mi hija Natasha Górbach — víctima de la catástrofe de Chernóbil— está gravemente enferma de cáncer de la glándula tiroidea. Necesitamos divisas y una clínica extranjera que pudiera ofrecerle a mi hija de dieciseis años curación y recuperación. Rogamos a nuestros compatriotas a que le presten ayuda enviando divisas a:**

БССР, разліковы рахунак № 07025809 «В» МФО 805153 у Знешэканомбанку СССР ОПУ Беларускага рэспубліканскага банку г. Мінска.

**Galina GORBACH, madre de Natasha.**

### EL MUNDO VISTO POR LOS LOCOS

**La exposición de pintura y dibujos, que se presenta ahora en la capital de Bielorrusia, tiene como título "Idealidad o demencia".**

Presenta obras que ya hace 30 años colecciona el prisquiatra V. Kruglianski. Y si no hubiera informado que todos sus autores, sin excepción alguna, padecían trastornos psiquicos, podría considerarse que mucho de lo visto son obras maestras creadas por genios. Todo es como en el arte contemporáneo, con su vanguardismo, clasicismo, primitivismo...

Parece que los dementes ven nuestro loco mundo igual que la gente sana. En las paredes de la sala aparecen lienzos y dibujos con los temas de siempre, como "retrato de un amigo", "patio para pasear", se nota la misma pasión por la política ("Ejecución de la bomba atómica") y provocan una sonrisa las caricaturas...

### ACTOR IRLANDES EN EL TEATRO BIELORRUSO

El año pasado, los habitantes de Belfast tuvieron ocasión de conocer a los protagonistas de la obra del dramaturgo bielorruso Alexéi Dúdarev "El umbral". El espectáculo tuvo éxito entre los espectadores. Lo puso en escena Valery Rayevsky, director del Teatro Bielorruso "Yanka Kupala".

Los admiradores del teatro "Yanka Kupala" acogieron calurosamente a Brain James Hoog que interpretaba el papel de Buslay en el teatro irlandés y que había llegado a Minsk para tomar parte en el espectáculo teatral bielorruso. B. D. Hoog donó sus honorarios a la cuenta del Fondo de la Niñez.

### EL PASAPORTE ES MAS BARATO QUE LA "TARJETA"

**En Brest y Grodno, ciudades tronterizas, se está ampliando un nuevo tipo de negocio: la venta de pasaportes soviéticos. En lo fundamental los compran los ciudadanos de la República Polaca que vienen a Bielorrusia bajo el pretexto de hacer turismo.**

Después de implantadas en Bielorrusia las "tarjetas" que permiten adquirir televisores, neveras y otros artículos de consumo, los vendedores exigen que además de la "tarjeta" los clientes presenten el pasaporte. Por esto crece la demanda de ambos documentos. Si los huéspedes pagan por la "tarjeta" hasta tres mil rublos, el pasaporte con la hoz y el martillo cuesta, por lo común, 15-20 veces menos.

Durante el primer trimestre de este año, los departamentos que expiden pasaportes del MININT de Brest han recibido ya 500 solicitudes declarando la pérdida de estos documentos. Una multa escasa no asusta a los hombres de negocios de nueva hornada. Tampoco tienen miedo al código penal que sólo estipula un castigo por falsificación de documentos.

Redactor de la página
K. SHELESTOVICH

# Вітаўт КІПЕЛЬ: «ТУТ Я ПАМАЛАДЗЕЎ НА ЦЭЛАЕ ЖЫЦЦЁ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

часу сітуацыя нармалізуецца.

*— Я разумею, што за такі кароткі тэрмін знаходжання ў Беларусі — тры дні ўсяго — проста немагчыма разабрацца ў тым, што цяпер адбываецца тут. Аднак цікава, якое ўражанне склалася ў вас ад знаёмства з беларускай прэсай, расказаў прыехаўшых з Бацькаўшчыны гасцей, тых эмігрантаў, што наведалі Беларусь?*

— Мы маем усю прэсу, што выходзіць у Беларусі, і пільна сочым за ўсім, што пішуць пра Беларусь. Апошнім часам сталі наладжвацца нашы ўзаемныя кантакты. Летась на радзіме бацькоў пабывалі нашыя дзеці — удзельнікі танцавальнага гуртка "Васілёк". Для іх гэта была надзвычайная падзея ў жыцці. Яны проста акрыялі пасля той паездкі. Шмат усяго расказвалі. Дадалі некаторыя дэталі ў тую агульную карціну, што ўжо складвалася ва ўяўленні. А карціна пераконвала, што на Беларусі ідзе імклівы працэс перамен. Беларусь стала на парламентарны шлях, ёсць апазіцыя. Яна, магчыма, яшчэ слабая сёння. Ды і народ яшчэ не з'яднаны ніякай агульнай ідэяй. Гэта добра разумеюць лідэры апазіцыі. Наогул, мы ведаем, што вам цяжка, што існуюць эканамічныя праблемы, што Чарнобыль прынёс біду. Між тым, гледзячы з боку, з далёкага боку, бачыцца, што палітычны працэс мае пазітыўныя адзнакі. Пазітыўнасць я бачу ў тым, што ў Беларусі няма тых эксцэсаў, сутычак паміж апазіцыйнымі сіламі, якія ўжо маюць месца ў іншых рэгіёнах Саюза. Апазіцыйныя праграмы, як я ведаю, не прадугледжваюць такіх дзеянняў, каб абвастрыць ужо наэлектрызаваную грамадскую атмасферу. Няхай пераходны перыяд будзе як мага даўжэйшы, мірны. Не трэба спяшацца.

Як бачыце, у поўнай ступені я ўяўляў, што адбываецца ў Беларусі. Але яшчэ летась у мяне навat не ўзнікла думкі, што можна паехаць у Менск. І толькі калі я адчуў, што ўпершыню нават, эмігрантамі, сур'ёзна, па-сапраўдному зацікавіліся на Радзіме, хочуць ведаць, як мы жывём, што робім, працягваюць руку на супрацоўніцтва, я псіхалагічна прыняў "дэцызію" — еду. Хваляваўся, што праўда, то праўда: як яно ўсё тут будзе?.. Надта ўжо неспадзяваная ласка з Радзімы. Як жа раней было: выкінулі гэтых эмігрантаў, і бог з імі! Альбо яшчэ горш: усё змагаліся з эміграцыяй, абвінавачвалі здрадніцтве, займаліся злавіць і пакараць немаведама за што альбо ўсяляк распісвалі перавагі сацыялістычнай сістэмы перад капіталістычнай.

Я тут таму — што за нармальнае супрацоўніцтва, за ўзаемаразуменне, бо адчуваю, што магу быць патрэбным Беларусі. І мы мелі добры прыём. Ніхто не пільнуе, ніхто не забараняе сустракацца, з кім нам хочацца. Такое прыемнае расчаруванне.

*— Калі ваш сын Юрка летась быў з "Васільком" у Беларусі, ён расказваў, што ваша сям'я моцна пацярпела ад Савецкай улады...*

— Мой бацька быў чырвонаармейцам. З 1918 па 1920 гады на франтах. У 20-м, дзякуючы Коласу, іншым знаёмым, звольніўся з арміі, пайшоў ва універсітэт. Стаў працаваць на нацыянальнай ніве. Быў блізкі з Цішкам Гартным, той бываў у нас дома. А пасля тыя, хто ўзваліў на свае плечы беларусізацыю, атрымалі па 10 гадоў альбо былі проста знішчаны. Ясна, што ўсё гэта пакінула шрам у жыцці. Памятаю, як я гутарыў з бацькам у Амэрыцы, спрабуючы для сябе высветліць сутнасць таго, што адбывалася ў 30-х гадох. Першы арышт быў у Менску, у 1930-м годзе. Маці тады працавала ў выдавецтве, як саслалі бацьку. У 1932 годзе ўлады сказалі, што ён не выдадуць пашпарту і лепш выехаць адсюль. Лепш за ўсё туды, дзе муж. У 1933 годзе напачатку маці са мною выехала ў горад Налімск, гэта на Урале. А ў 1935-м, як бацька адбыў ссылку, то і маці сказалі, што ёй ужо нямножна ездзіць у Беларусь. А ў 1935 годзе паследаваў другі арышт бацькі. Яго сталі прымушаць падпісаць ліст для газеты "Известия", дзе б ён пакаяўся, што "осуждает свою прошлую деятельность, когда основал клуб параллельно комсомолу, "Беларускую хатку". Бацька не згадзіўся падпісваць. І яго адразу забралі. Найболей ён баяўся, каб следчыя не прыпомнілі, што быў у Чырвонай Арміі. Бо тады расстрэльвалі такіх адразу. Жахлівы быў час. Як я зразумеў з бацькавых расказаў, энкавэдэ хацела зліквідаваць тых людзей, якія ўключыліся ў беларускі рух у 20-х гадох.

Усю бацькаву сям'ю, усіх яго родных пазней знішчылі немцы, бо жылі яны ў партызанскай зоне.

Такім чынам, немцы звалілі нас з маці ў Арле, дзе мы на той час адбывалі ссылку. Змаглі вярнуцца ў Менск. Пажылі там два гады і паехалі на эміграцыю. А ў свой час, яшчэ да арышту, бацьку, як ён казаў, нават прапанавалі ўступіць у партыю. Ён не пайшоў. Сказаў: я зашмат сялянскі, каб зразумець вашую філязофію.

Я так думаю, што задакументаваць трэба ўсё пра тыя часы і пазеі. А вечна жыць помстай нельга. Гэта непатрэбная з'ява і бесперспектыўная.

*— А як складвалася вашае жыццё ў эміграцыі?*

— Людзі майго пакалення, якія атрымалі асвету ў Заходняй Эўропе, пасканчалі універсітэты пасля вайны, потым у Амэрыцы праблем не мелі. Я, дарэчы, скончыў у Бельгіі геалягічны факультэт. А да гэтага ў Нямеччыне вучыўся паўтара года. Тады ўжо захварэў на беларускасць. Набяру розных гістарычных кніжак у рукзак і чытаю, чытаю ў экспэдыцыях. Усё ў мяне нядрэнна ішло. Але нешта падсвядомае падштурхоўвала: "Гэта не твая "справа". Я сам адчуваў, што не змагу даць поўную аддачу, седзячы ў полі з беларускімі кнігамі. Так што я змяніў сваю прафесію, скончыўшы ўжо ў Амэрыцы бібліятэчны факультэт. Спачатку быў заступнікам загадчыка, потым загадчыкам навуковага аддзела бібліятэкі. Без праблем уліўся ў амэрыканскае жыццё. Цяжка было? Зразумела, не гулі. Праца, яна паўсюль ёсць праца.

*— Беларусь перажывае ця-*

## У МАЙСТЭРНІ МАСТАКА

**У творчасці кожнага мастака ёсць галоўная тэма, да якой ён неаднаразова звяртае свае думкі. Для мінскага скульптара Аляксандра Шатэрніка — гэта гісторыя і культура Беларусі. Вобразы, створаныя мастаком, дапамагаюць глыбей зведаць, а многім і ўпершыню адкрыць для сябе імёны людзей, якія прысвяцілі жыццё служэнню роднаму народу. Ефрасіння Полацкая і Рагнеда, Кірыла Тураўскі і князь Вітаўт, В. Дунін-Марцінкевіч і Я. Колас, М. Багдановіч і К. Каліноўскі — скульптурныя партрэты гэтых выдатных асоб, створаныя А. Шатэрнікам, атрымалі ўядомасць і прызнанне.**

**Мастак працягвае працаваць над гістарычным цыклам. Ён стварае трыпціх, прысвечаны дзеячам беларускай культуры — Уладзіславу Сыракомлі, Станіславу Манюшку, Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу. Асэнсоўваючы творчасць Максіма Багдановіча, зноў вяртаецца да работы над вобразам паэта.**

**Стварэнне твораў на гістарычную тэму патрабуе глыбокага і ўсебаковага вывучэння розных крыніц, сур'ёзнага даследавання. І гэта таксама працэс творчасці. Так, вывучаючы сімволіку гравюр Ф. Скарыны, А. Шатэрнік выказвае свае, вельмі цікавае яе тлумачэнне.**

**НА ЗДЫМКАХ: А. ШАТЭРНІК. "Максім Багдановіч"; скульптура Уладзіслава Сыракомлі — адна з фігур трыпціха мастака; плакета, прысвечаная беларускай асветніцы Святой Ефрасінні.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**







## ВІДЭАКЛУБ У БЕЛАСТОКУ

Сёлета ў красавіку ў будынку Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства па вуліцы Варшаўскай у Беластоку адкрылі відэаклуб. У ім найноўшае святлоцае абсталяванне. Можна будзе тут глядзець наступныя фабулярныя (мастацкія) фільмы з відэакасет: "Ідзі і глядзі", "Знак бяды", "Чужая бацькаўшчына", "Доўгая ноч", "Дзікае паляванне караля Стаха" і іншыя. Крыху пазней сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк намераны абсталяваць у клубе тэлеэкран памерамі 2x3 метры.

Зараз у клубе можна паглядзець фільм, выпіць чай або каву, а таксама ахаладжальныя напіткі. Наведвальнікі маюць да выбару дзесяць загалоўкаў беларускіх і рускіх газет ды часопісаў, у тым ліку мінскі тыднёвік "Голас Радзімы". Дык да сустрэчы ў відэаклубе БГКТ у Беластоку!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ.**

Беласток.

## ДАПАМОЖАМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ!

Да шматлікіх грамадскіх аб'яднанняў Беларусі ў хуткім часе дабавіцца яшчэ адно — створана і ўжо дзейнічае ініцыятыўная група па ўтварэнню дабрачыннай грамадскай арганізацыі — Беларускай асацыяцыі мецэнатаў.

Не сакрэт, што беларуская культура шмат страціла ў сваім развіцці за апошнія дзесяцігоддзі. Не так ужо многа ў рэспубліцы тэатраў, музеяў, няма ўласнай карціннай галерэі, хоць імёны беларускіх мастакоў сусветна вядомыя. Так званы астаткавы прынцып фінансавання трымаў усе прадпрыемствы культуры на галодным пайку. Ва ўмовах жа рыначнай эканомікі, без дзяржаўных датацый над беларускай культурай навісла сур'ёзная пагроза.

Беларуская асацыяцыя мецэнатаў і мае на мэце арганізацыю дапамогі ў гэтым напрамку. Яна павінна стаць аб'яднаннем спонсараў, якое будзе мэтанакіравана размяркоўваць сродкі на развіццё культуры. Да супрацоўніцтва запрашаюцца зацікаўленыя людзі, дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы — усе, каму неабыякавы лёс і культура Беларусі.

## КАЛЯНДАР ВЫДАДЗЕНЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Гэты каляндар выдадзены Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы на 1991 год. Ёсць тут раздзелы "Каляндарнае", "Свойскае", "Размоўнае", "Палітычнае" і інш. Надзвычай дакладна і востра пададзена гісторыя Чарнобыля (артыкулы А. Галькевіча і Л. Тарасенкі).

Сярод матэрыялаў заслугоўвае ўвагі "Размова з Сакратам Яновічам", у якой вядомы беларускі пісьменнік Беласточчыны разважае аб ролі роднага слова ў жыцці творцы. "Слова роднае і слова вывучанае — гэта не адно і тое ж. Слова роднае прыйшло разам з табою на свет, слова вывучанае — набытае, бы нейкая мэбля... У мастацкім сэнсе значна больш можаш дасягнуць, карыстаючыся родным словам, ...пры дапамозе слова, з якім прыйшоў на свет... Па-за беларускай моваў я быў бы вартым жалю чаляднікам", — спаведаецца пісьменнік.

У "Календары" таксама змешчана хроніка беларускага руху ў Польшчы ў 1989-1990 гадах, артыкулы пра беларускі музей у Гайнаўцы, царкоўныя брацтвы на Беларусі, развіццё беларускай эміграцыйнай прэсы і выдавецтваў, іншыя матэрыялы.

*перцяжкія часы. Напэўна, для вас не сакрэт, што мы купляем усе тавары па талонах, што гэтых тавараў катастрафічна не хапае, каб хаця прыстойна апрануцца, нармальна паесці. Страшэнная дарагоўля не дазваляе набыць нават самае неабходнае. Апынуўшыся ў такіх умовах, людзі ўсё часцей пазіраюць на Захад, выказваюць жаданне эмігрыраваць. Ну, а Амерыка ім здаецца проста раем. Магчыма, з прыняццем закона аб уездзе-выездзе ў Амерыку хлыне новая хваля эміграцыі. Што яе чакае, на вашу думку?*

— Што тычыцца новых эмігрантаў, якія цяпер прыязджаюць у Амэрыку ці яшчэ збіраюцца прыехаць туды, мне здаецца, што іх чакае пэўная зняверка, расчараванне. Тое, што сённяшняя эміграцыя мае ў Амэрыцы, дасягнута было цяжкай працай. Разбагацець у нас адразу ніхто не зможа. Гэта не такая сістэма. Хіба што выпадкова выйграе ў латарэю і стане мільянерам. Людзі, якія прыязджаюць сёння з былога Усходняга блёку, Беласточчыны, найбольш Савецкага Саюза (беларусаў, дарэчы, прыязджае вельмі мала), спатыкаюцца з мноствам праблем: цяжка знайсці працу, а калі знайшлі, то яна, як правіла, нелегальная. Праца ж такая слаба аплачваецца. Безумоўна, што гэта самая цяжкая, чорная, што называецца, праца. Прыехаўшыя зняверваюцца, хутка пачынаюць енчыць: "У нас, маўляў, было лепей, у нас медыцына бясплатная!" Пачынаюць параўноўваць сістэмы па сваім дасведчанні — маленькім, дробным. А кожная сістэма мае сваю спецыфіку.

Мая парада, перасцярога такая: калі хто хоча прыехаць у Амэрыку і зарабіць трохі грошай сабе альбо мяркуе пераехаць на сталае жыццё, — у любым выпадку павінен падрыхтавацца да цяжкай працы. Уладкавацца па спецыяльнасці эмігранты з СССР не змогуць. Па-першае, моўны бар'ер. Нават, калі спецыяліст па камп'ютэрах, — ён не дапасаваны ў тую сістэму камп'ютэраў, якая ў нас. Ёсць пэўныя тэхналагічныя неадпаведнасці. Ну, а калі людзі так ужо хочуць эмігрыраваць, і так ім стала нясцерпным тут жыццё, ніякага выйсця яны не бачаць, то трэба падрыхтавацца на доўгі пераходны перыяд. Тыя эмігранты, якія прыехалі ў 40-х гадах, праходзілі гэты перыяд аж да пачатку 50-х. Уяўляеце час: разбітая Эўропа, нічога няма, усюды жыццё нялёгкае. І, прыехаўшы ў Амэрыку, яны адчувалі, што масты спаленыя і трэба жыць тут. Выжыць, што б ні было. Пераважна гэта былі людзі, якія пацярпелі ад Савецкай улады, не згаджаліся з ёю. І гэтыя людзі не мелі нараканняў. Як бы ім цяжка ні было, не скардзіліся, з ахвотай ішлі працаваць. А праца ў Амэрыцы цэніцца. Праз доўгія гады эмігрант з Беларусі дасягнуў, што амэрыканцы сёння называюць "сярэдняя кляса". У іх дамы — па аднаму, па два, па тры. Новым эмігрантам ці гасцям, якія прыязджаюць цяпер, здаецца, што ўсё гэта само ўпала з неба. Гэта памылка, вядома. Іншая справа, калі нехта мае сваякоў. Тады ёсць сэнс, зразумела, прыехаць, падрабіць на любой працы. Альбо калі чалавек мяркуе вучыцца ў Амэрыцы. Тады о'кэй! А калі так, што я паеду ў Амэрыку, параблю і стану багатым, — то гэта залёгкая думка.

Увогуле эміграцыя ў Амэрыку — гэта павінна быць рашэнне доўгіх гадоў і вельмі з вялікай развагай зробленае. Чалавек можа думаць адно, а рэчаіснасць — гэта зусім іншае. І тады ў выніку паспешлівых рашэнняў могуць быць вялікія расчараванні і трагедыі.

*— Апошнім часам у гасцях у нашых суайчыннікаў у Амерыцы пабывала нямала гасцей з Бацькаўшчыны — і маладых, і старэйшага ўзросту. Як складваюцца ўзаемаадносіны з імі?*

— Ведаеце, дзверы для землякоў з Беларусі, якія ёсць сапраўды беларусы, заўсёды адчыненыя. Праўда, бывае так, што прыязджае афіцыйная дэлегацыя з Беларусі. А ў ёй ніхто не можа нават гаварыць па-беларуску. Я чаму ведаю гэта? Як працаваў у бібліятэцы, то мяне нярэдка прасілі быць гідам. З 13—14 чалавек адзін усё ж знаходзіўся "беларус". Гэта, як правіла, быў пісьменнік.

Цяпер, праўда, сітуацыя мяняецца. Прыязджаюць людзі з савецкай адміністрацыі, якія пры ўладзе, яны адукаваныя, культурныя. Пакідаюць добрае ўражанне. Персанальныя кантакты цяплейшыя. Вось нядаўна ў нас былі народныя дэпутаты Пазняк, Заблоцкі, Баршчэўскі. Я быў на пару спатканнях з імі. Людзі іх добра прымаюць.

Я думаю, што мы павінны наладзіць нармальныя эканамічныя сувязі. Зараз добрую работу ў гэтым напрамку вядзе міністр замежных спраў Краўчанка. Ён апелюе да амэрыканцаў. Не толькі да эмігрантаў. У амэрыканцаў шмат бізнесменаў. Краўчанка кажа: "Купляйце вырабы берасцейскія, шкатулкі са Жлобіна, электратавары мінскія, давайце іх на рынак!" Мы імкнёмся наладзіць нармальны бізнес для Беларусі. Беларусы выпрабляюць нешта, прадаюць нам, а нам прыемна мець свайго Сымона-музыку, выціснутага ў метале, і мы едзем у краму і купляем гэта. Зноў жа, чаму не наладзіць Беларусі кніжны гандаль у Амэрыцы? Выдавецтвы маглі б адчыніць свае прадстаўніцтвы там. Чаму не гандляваць вырабамі народных майстроў, творамі мастацтва?! Эмігранты і дзеці эмігрантаў будуць купляць усё гэта.

Дарэчы, пра дзяцей эмігрантаў. Некаторых з іх вы ўжо ведаеце, яны прыязджалі летась у Беларусь. Тая невялікая праслойка дзяцей, народжаных ад беларускіх бацькоў у Амэрыцы, пачынае тварыць новы элемент: гэта амэрыканцы, якія будуць думаць пра Беларусь, як памагаць ёй, паляпшаць яе. Яны дэмакратычныя амэрыканцы, яны ніколі не змогуць існаваць у іншай сістэме, але яны застануцца на беларускім панадворку. Шмат з іх змогуць прыехаць на курсы, што мяркуюць адчыніць у Мінску пры БДУ — летняя школа беларусістыкі. Асабліва, калі гэта школа выробіць сабе марку, будзе вядомая. Так што нашыя дзеці будуць прыязджаць.

*— Гэта было б проста выдатна, каб усе задумы здзейсніліся. Мне здаецца, што і асаблівых перашкод для гэтага няма.*

*Магчыма, на кангрэсе завязаліся ўжо нейкія дзелавыя кантакты?*

— Так. Я меў гутарку з прадстаўніком выдавецтва "Беларусь", якое мяркуе выдаць на беларускай мове маю кнігу "Беларусы Амэрыкі". Збіраемся супольна з Акадэміяй навук БССР выдаваць кожныя два ці тры гады манаграфію па Скарыне... Бачыце, ёсць яшчэ ў нас белыя плямы: Скарына ў японскай, у кітайскай, у арабскай мовах. Тут неабходны даследаванні. Працы шмат. Галоўнае, я лічу, што ёсць кантакт, адбылося пэўнае збліжэнне, і цяпер, як будзе скаардынавана наша дзейнасць, яна дасць большы плён.

*— Удзячная за гутарку. І спадзяюся, што мы яшчэ неаднойчы пабачымся ў Мінску.*

**Гутарку вяла**
**Таццяна АНТОНАВА.**

# АД НАС ЗАЛЕЖЫЦЬ,

## ЧАМУ ДРЭННА ВЫКОНВАЕЦЦА «ЗАКОН АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР»

**Гэта праблема была адной з самых балючых, што абмяркоўваліся на II з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. З'езд праходзіў у Мінску 14-15 чэрвеня, і справаздачу аб ім мы змесцім у наступным нумары "Голасу Радзімы". Сёння ж мы прапануем чытачу выступленне народнага дэпутата БССР Алега ТРУСАВА, намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны на кангрэсе беларусістаў.**

Грамадскасць рэспублікі ведае, што закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ўступіў у сілу з верасня 1990 года. Можна доўга спрачацца аб тым, наколькі гэты закон дасканалы, асабліва наконт тэрмінаў яго ўвядзення. Але зараз мне яскрава бачна, што пакуль існуюць сённяшнія ўрад рэспублікі і Вярхоўны Савет БССР, вялікіх зрухаў не будзе.

Справа ў тым, што большасць народных дэпутатаў і амаль усе сённяшнія міністры — выхадцы з сярэдніх і дробных прадстаўнікоў той каманднa - адміністрацыйнай сістэмы, якая зрабіла ўсё магчымае, каб знішчыць беларускую мову, культуру і гісторыю. Давайце ўспомнім наша недалёкае мінулае. Пасля нядоўгага росквіту беларускага адраджэння ў другой палове дваццатых гадоў гэтага стагоддзя сталінскі тэрор нанёс непапраўныя страты беларускаму этнасу, знішчыўшы амаль усю свядомую інтэлігенцыю альбо адправіўшы яе ў Сібір і на Калыму. Калі да гэтага дадаць, што разам з інтэлігенцыяй былі знішчаны амаль усе нацыянальныя беларускія партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і вайсковыя кадры, што свабодна валодалі беларускай мовай і выкарыстоўвалі яе ў паўсядзённым ужытку, то сітуацыя набывае яшчэ больш трагічны характар. У канцы 30-х гадоў "нацдэмам" сталі называць любога чалавека, за выключэннем хіба што вясковых жыхароў, хто карыстаўся беларускай мовай у афіцыйных установах, навучальных установах і нават у побыце.

Другая сусветная вайна прадоўжыла інтэлектуальны і фізічны генацыд беларусаў, калі на франтах і ў партызанскіх атрадах, а таксама на акупіраванай тэрыторыі загінулі тыя настаўнікі, выкладчыкі і прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, што ацалелі ад сталінскага тэрору. Пасля вайны Беларусь аказалася адзінай дзяржавай-пераможцай у вайне з фашызмам, якая не павялічыла, а страціла частку сваёй этнічнай тэрыторыі. У знішчаныя гарады і вёскі, і асабліва ў сталіцу рэспублікі, што страціла перад вайной сваю старадаўнюю назву Менск, прыехалі кіраўнікі і апаратчыкі з розных куткоў СССР, якія з вялікай пагардай сталі ставіцца да ўсяго беларускага, тым больш, што прыехалі сюды, да нас, далёка не лепшыя прадстаўнікі "братніх" народаў.

Нягледзячы на значныя ахвяры беларусаў у сталінскія часы і ў вайну, беларускую вёску імкліва вывозілі спачатку на сталінскія будоўлі, а потым і для выканання планавых заданняў хрушчоўскай сямігодкі. Сотні тысяч беларусаў жывуць зараз у Карэліі і Казахстане, у Маскве і Ленінградзе, у Сібіры і нават за Палярным кругам і хутка асімілююцца, не маючы сваіх школ, газет, культурнага і грамадскага жыцця.

Але вернемся на Беларусь... Пасля славутай прамовы Хрушчова на ганку Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе было сказана, што пры камунізме ўсе загавораць на рускай мове, хваля русіфікацыі пашырылася і канчаткова захлынула не толькі горад, але і вёску. Да 1965 года зніклі ўсе беларускамоўныя школы ў гарадах і мястэчках.

Пад "мудрым кіраўніцтвам" лідэраў эпохі застою пачалося масавае вызваленне наогул ад вывучэння беларускай мовы ў школах па заявах бацькоў. Былі выпадкі, калі ў школах праводзілі ўрокі беларускай літаратуры на рускай мове. У 1973 годзе пад кіраўніцтвам Пятра Машэрава, якога зараз выдаюць за нацыянальнага героя, было наладжана чарговае паляванне на "нацдэмаў". Шмат людзей страцілі працу, некаторых навукоўцаў пазбавілі вучоных ступеняў, была разагнана канферэнцыя, якую меркавалі прысвяціць этнагенезу беларусаў, а ўжо надрукаваныя яе тэзісы былі амаль цалкам знішчаны.

Першыя прыкметы адраджэння пачаліся ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў, дзякуючы новаму пакаленню беларускай інтэлігенцыі, дзяцей тых вяскоўцаў, што прыйшлі ў горад і адцураліся ад усяго беларускага. Сярод розных груп нацыянальнай інтэлігенцыі найбольш вызначыліся мастакі і археолагі, якія звярнулі ўвагу на нашу матэрыяльную культуру і аднаўленне помнікаў гісторыі і культуры. Неўзабаве да іх падключыліся пісьменнікі і журналісты, якія распачалі нястомнае змаганне за беларускую мову. Усё гэта скончылася прыняццем "Закона аб мовах у Беларускай ССР".

Стары Вярхоўны Савет, прагаласаваўшы за гэты закон, ніколі не думаў, што калі-небудзь прыйдзецца яго выконваць. Таму і буксуе закон, бо выконваць яго трэба не старым апаратчыкам, выхаваным у адмоўным стаўленні да ўсяго беларускага, а свядомым змагарам за нацыянальнае адраджэнне.

Каманднa - адміністрацыйная сістэма бачыла адну з рэальных пагроз свайму існаванню ў беларускім фальклоры і ўсяляк знішчала яго пад сцягам барацьбы з рэлігіяй і рознымі забабонамі, што перашкаджалі "авангарду рабочага класа" будаваць светлую будучыню. Таму разам з пераводам сістэмы адукацыі на беларускую мову трэба захоўваць і развіваць беларускі фальклор, яго моўнае і мастацкае багацце.

Пачынаючы з гэтага года трэба прадугледзець дзяржаўныя датацыі на вывучэнне і захаванне ва ўмовах рынку асобных фальклорных праграм. Я прапаную стварыць спецыяльны факультэт па падрыхтоўцы спецыялістаў па вывучэнню і прапагандзе аўтэнтычнага фальклору, а таксама арганізаваць невялічкае, але асобнае выдавецтва для яго прапаганды.

Пры адраджэнні нацыянальнай свядомасці трэба ўлічваць тую акалічнасць, што калі знікне імперскі міф аб прэстыжы і суперзначнасці рускай мовы, яе значэнне для беларусаў значна зменшыцца і з'явяцца новыя моўныя прыярытэты, напрыклад, веданне англійскай мовы. Пры гэтым нельга забываць, што любая культура, асабліва нацыянальная, гаворыць праз нас і менавіта мы з'яўляемся яе рупарам. І ад нас залежыць, як, каму і на якой мове мы будзем гаварыць аб нашай культуры сусветнаму супольніцтву.



**У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — прэм'ера спектакля "Цынкавыя хлопчыкі" па п'есе С. Алексіевіч. Галоўныя дзеючыя асобы — воіны-інтэрнацыяналісты, іх маці, нявесты, вуснамі якіх расказваецца пра жорсткую вайну ў Афганістане і яе вынікі.**
**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

## ВЕДАЙ КУЗЬМІЧА, АМЕРЫКА!

Віцэ-прэзідэнт амерыканскай дабрачыннай радыёкампаніі "Citihope Radio" пані Шарон Мор у Мінску не першы раз. Кожны візіт замежнай госці звязаны з дабрачыннымі акцыямі: перадачай лекаў, медабсталявання, наведваннем дзіцячых устаноў.

На гэты раз пані Мор сустрэлася з мінскім мастаком Аляксеем Кузьмічом, аўтарам вялікага цыкла жаночых партрэтаў. На адным з палотнаў мастак адлюстраваў амерыканку з хворым беларускім дзіцем на руках. Як заўважыла госця, гэты партрэт стане ўпрыгажэннем яе вілы.

# крынічка

Вось як прыгожа малюем!

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

Алег ФОМЧАНКА

## ВЫПАДАК НА РЭЧЦЫ

Пра Мішу і Гену кажуць, што іх вадой не разальеш. Такія сябры. Жывуць у адным доме. У адным пад'ездзе. Нават на адной лесвічнай пляцоўцы. І дня не пройдзе, каб не сустрэліся: то Міша бяжыць да Гены, то Гена да Мішы.

Аднаго разу, у нядзелю, паехалі яны з бацькамі за горад. Стаяў цёплы сонечны дзень. Дарослыя ўладкаваліся ў цяньку на лузе, а Міша і Гена пабеглі да рэчкі.

Празрыстая, з дробнымі каляровымі каменьчыкамі на дне, рэчка весела бегла ў нізкіх берагах, між зялёнага аеру, ціха віравала на пясчаных водмелях.

Цікава сачыць за хуткімі, як сонечныя промні, рыбінкамі. Усё далей ад берага адыходзіць Міша. А Гена боўтаецца ў вадзе каля самага аеру, дзе мальчэй.

— Ідзі сюды! — махае рукой Міша.

Гена асцярожна брыдзе да сябра. Вада дастае яму да каленяў, і ён спыняецца.

— Не бойся! — крычыць Міша. — Тут неглыбока!

Але Гена паварочвае назад.

І раптам адтуль, дзе знаходзіцца Міша, далятае крык:

— Ра-атуй-це!..

Гена на нейкі міг замірае, разгублены, а потым выскоквае на бераг. Лётам ляціць на луг, туды, дзе адпачываюць бацькі. Засопшыся, шэпча, паказваючы рукой на рэчку:

— Там... Міша топіцца...

Усе разам, абганяючы адзін аднаго, бягуць да рэчкі. І з палёгкай уздыхаюць: на беразе, боўтаючы нагамі ў вадзе, сядзіць Міша.

Бацька дакорліва глядзіць на Гену:

— Ці ж гэтак можна жартаваць?

— Дык ён жа тапіўся, — апраўдваецца Гена. — Сам чуў, як крычаў: "Ратуйце..."

— Табе падалося, — усміхаецца Міша. — Калі б я тапіўся, ты кінуўся б мяне ратаваць. Праўда?

Гена чырванее і апускае галаву. З крыўдай думае: "Так, я сапраўды разгубіўся там, на рэчцы. Але і ты, Міша, маніш. І мне, і бацькам. Ці ж так выпрабоўваюць сяброў?.."

А вы як думаеце?

Алесь ЯКІМОВІЧ

## ЯКАЯ ЛІТАРА ЛЕПШАЯ?

Сустрэліся Варанятка і Верабейка, заспрачаліся, якая літара лепшая.

Верабейка напісаў "Ч" і сказаў:

— Гэта літара мне нават співаць дапамагае. Паслухай: чык-чырык, чык-чырык...

— Дакажы, што твая літара лепшая, напрыклад, за літару "А", — наступала Варанятка.

— Не ведаю, як даказаць, — засмуціўся Верабейка.

Бег якраз Шпачок, пачуў іх спрэчку і кажа:

— Ёсць месяц, назва якога пачынаецца з літараы "Ч". Не было б гэтай літары — не было б і назвы месяца.

— Гэты месяц, — чэрвень, — здагадаўся Верабейка.

А Шпачок працягваў:

— З літары "Ч" пачынаецца слова "часопіс". Без гэтага слова мы не ведалі б пра дзіцячы часопіс "Вясёлка".

— Але ж у слове "часопіс" ёсць і літара "А", — падказала Варанятка. — Не было б літары "А" — не было б і гэтага слова.

— Навошта ж тады спрачацца? — сказаў Шпачок. — Няма лепшай літары, няма горшай. Усе патрэбныя — ад "А" да "Я".

ГУЛЬНІ

### КОЗАЧКА

А козачка белая
По надворку бегае,
Пералезла цераз плот
Ды пабегла ў агарод.
Аб'елася цыбуліцы —
Крычыць, бяжыць па вуліцы;
Аб'елася часнаку —
Крычыць, бяжыць па таку;
Аб'елася лебяды —
Крычыць, бяжыць да вады.

### ЗАПРАЖЫЦЕ СІВЫХ КОНЕЙ

Запражыце сівых коней
У вазок шырокі:
Хоча ехаць верабейка
Ў госці да сарокі.
Як прыехаў верабейка
Ды шпорамі ляснуў,
Выскачыла сарочанька:
— Прашу, калі ласка.
Прашу, прашу, верабейка,
Мяне не цурацца,—
І за стол саджае госця,
Просіць частавацца.
Прыйшоў мядзведзь дзіва глядзець
Ды стаў выскаляцца.
Тут наш смелы верабейка
Не змог утрымацца.
Як задаў мядзведзю дыхту,
Каб не забываўся
І над малым верабейкам
Больш не пасміхаўся.

Ігар СІДАРУК

## НА КАГО ПАДОБНА СОНЕЙКА?

КАЗКА

Сланечнік і Дыня раслі ў агародзе побач. Разам моклі пад дажджом. Разам загаралі ў сонечны дзень. Сонейка ветліва ўсміхалася ім з вышыні, песцячы, казытала іх сваімі ласкавымі промнямі. Дружна жылі Сланечнік і Дыня, як брат і сястра. Але неяк зайшла паміж імі спрэчка: на каго сонейка больш падобна?

— Яно круглае, як і я, — горда сказаў Сланечнік.

— Не, — запярэчыла Дыня. — Сонейка падобна на мяне. Таму што цёплае, як мае бакі, і, пэўна, такое ж салодкае ўсярэдзіне.

Сланечнік ажно замахаў лістамі:

— Прыдумала — салодкае! Сонейка залацістае, як і я. І промні яго нагадваюць мае жоўценькія пялёсткі.

Дыня і на гэта запярэчыла:

— Затое сонейка не стаіць на месцы, а перакочваецца па небе, як я па градцы...

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася спрэчка, калі б не ўмяшалася Пудзіла. Яно ўскінула гаршчок-галаву, паглядзела на сонейка і сказала:

— Дзівакі! Прыгледзьцеся лепей— гэта не сонейка на вас, а вы на яго падобныя!..

Сланечнік і Дыня перасталі спрачацца. І зноў зажылі дружна, як брат і сястра.

Мае сябры.

Фотаэцюд А. ВАЛЯНЦІНАВА.

## СМЯШЫНКІ

### ТРЫ СОНЕЙКІ

*На ўроку малявання*
*Ала*
*Тры сонейкі*
*Намалявала.*
*— Чаму аж тры? —*
*Спытаў Панас.*
*— Хачу,*
*Каб пацяплела ў нас.*

### ШТО БЫВАЕ ПАСЛЯ ВОС

*Неяк раз*
*Адзін герой*
*Раздражніў*
*Асіны рой.*
*Што бывае*
*Пасля вос?..*
*Толькі шчылінкі*
*Для слёз.*

## ЗАГАДКІ

Курка на рынак схадзіла,
Жменьку зярнят купіла.
Жменьку зярнят купіла,
Дзеткам усё падзяліла.
Дзевяці куранятках
Папала па два зярняткі.
Адно ад чародкі адбілася—
І на дзяльбу спазнілася.
Колькі было зярнят?
Колькі куранятак?

(18 зярнятак,10 куранятак).

Алеся — у лесе.
Люся — у лузе.
Поля — у полі.
Каця — у хаце.
Ядзя — у садзе.
Там і Надзя.
А дзе Оля,
Калі Поля
Там,
Дзе Оля?

(У полі).

Не мэкае, не бэкае,
На плоце кукарэкае.

(Певень).

Ног няма, а хаджу,
Языка няма, а скажу,
Калі спаць,
Калі ўставаць.

(Гадзіннік).

Адна нага
На месцы стаіць,
Другая —
Вакол першай бяжыць.

(Цыркуль).

Лятае грак,
А Г вазьмі адкінь —
І ён, дзівак,
Нырне ў рачную плынь.

(Рак).

Вушка ёсць, а нікога не слухае.

(Іголка).


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 936.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12